№27

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

## ТЭМА НУМАРУ:

## БАЦЬКОЎСКІ СХОД


ЯК СТВАРЫЦЬ І ЗАРЭГІСТРАВАЦЬ СУПОЛКУ, РАЁННАЕ (ГАРАДСКОЕ) АДДЗЯЛЕННЕ ТБШ >> СТАР. 1

ПАРАДЫ СЯБРАМ БАЦЬКОЎСКІХ КАМІТЭТАЎ >> СТАР. 2

КАРЫСНЫЯ ІНТЭРНЭТ-РЭСУРСЫ: >> СТАР. 3

БАЦЬКАМ ПРА АКТЫЎНУЮ АЦЭНКУ >> СТАР. 4

АБВЕСТКІ >> СТАР. 6




# ЯК СТВАРЫЦЬ І ЗАРЭГІСТРАВАЦЬ СУПОЛКУ, РАЁННАЕ (ГАРАДСКОЕ) АДДЗЯЛЕННЕ ТБШ

*Статут РГА «Таварыства беларускай школы»:*
*http://www.nastaunik.info/initiative/tbs/statut/*
*Спіс і кантакты суполак:*
*http://www.nastaunik.info/initiative/tbs/?id=218*

Як вядома, грамадскія арганізацыі трымаюцца на дзейнасці першасных суполак. Афіцыйныя суполкі павінны мець рэгістрацыю ў раённых выканкамах. Каб атрымаць такую рэгістрацыю, трэба мець асобны пакой у нежылым фондзе, ці ў жылым – але з асобным уваходам.

1) Аснова ТБШ – першасныя суполкі (бацькоўскія камітэты, гурткі беларусазнаўства і г.д.), якія могуць аб'ядноўвацца ў раённыя, гарадскія і абласныя аддзяленні.

Першасныя суполкі ствараюцца паводле тэрытарыяльнага або вытворчага прынцыпаў пры наяўнасці не менш чым траіх сяброў ТБШ на агульным сходзе (паводле пісьмовых заяваў). Рашэнне аб стварэнні суполкі дасылаецца ў Канцылярыю для пастаноўкі на ўлік. Сябры суполкі збіраюцца на свае сходы не радзей як раз на паўгода. Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў ад ліку прысутных сяброў суполкі, пры ўмове прысутнасці не менш за палову складу ўсіх сяброў суполкі. На арганізацыйным сходзе суполкі адкрытым галасаваннем абіраецца старшыня суполкі, скарбнік і рэвізор. Пры наяўнасці болей за 10 сяброў у складзе суполкі дадаткова абіраецца намеснік старшыні.

Старшыня суполкі арганізуе працу суполкі згодна са статутам ТБШ, займаецца пытаннямі пастаноўкі на ўлік або зняцця з уліку суполкі, падтрымлівае сувязі з вышэйшымі органамі ТБШ.

Скарбнік суполкі збірае штогадовыя складкі сяброў ТБШ, а таксама добраахвотныя ахвяраванні.

Рэвізор суполкі кантралюе выкананне Статута ТБШ сябрамі суполкі, а таксама яе фінансава-гаспадарчую дзейнасць (пункт 4.3 Статута ТБШ).

Назва суполкі: напрыклад – *Шчомысліцкая суполка ТБШ Мінскага раёна*.

2) Раённыя (гарадскія) аддзяленні ТБШ ствараюцца ўстаноўчымі канферэнцыямі дэлегатаў пры наяўнасці не менш за тры суполкі (усяго не менш за 10 асобаў). Для пастаноўкі на ўлік высылаюцца ў Канцылярыю ТБШ адпаведныя пратаколы.

Назва аддзялення: напрыклад – *Магілёўскае гарадское аддзяленне ТБШ*.

3) Канцылярыя ТБШ (юрыдычны адрас – 220051 Мінск, вул. Варанянскага, 7А-720) прымае адпаведнае рашэнне і высылае створанаму аддзяленню (суполцы) ТБШ або непасрэдна ў адпаведнае ўпраўленне юстыцыі мясцовага выканаўчага камітэта пакет дакументаў на рэгістрацыю (з наданнем правоў юрыдычнай асобы) ці ўлік (без надання правоў юрыдычнай асобы).

Дакументы: заява аб пастаноўцы на ўлік арганізацыйнай структуры з трыма подпісамі кіраўнічага органа ТБШ; рашэнне аб стварэнні арганізацыйнай структуры ТБШ з указаннем, ці надзяляецца яна правамі юрыдычнай асобы; завераныя копіі пасведчання рэгістрацыі і статута РГА «ТБШ»; *спісы сяброў выбарных органаў структуры аб'яднання з указаннем іх пасадаў у гэтых органах, года нараджэння, адраса; *дакумент, які пацвярджае паўнамоцтвы сябра ТБШ прадстаўляць інтарэсы аб'яднання ў працэсе рэгістрацыі ці пастаўкі на ўлік; *дакумент, які пацвярджае наяўнасць юрыдычнага адраса арганізацыйнай структуры ТБШ (гарантыйны ліст або іншы дакумент, што пацвярджае права на размяшчэнне кіраўнічага органа арганізацыйнай структуры па ўказаным у дакуменце адрасе); *дакумент банка, які пацвярджае аплату дзяржаўнай мыты, калі заканадаўчымі актамі не ўстаноўлена іншае.

Дакументы на рэгістрацыю падаюцца ў месячны тэрмін пасля ўтварэння суполкі ці аддзялення ТБШ. Пазначаныя зорачкай дакументы рыхтуюцца створанымі структурамі.

*Тэл. для даведак:*
*+375 29 778 56 98 (Алесь Лозка),*
*+375 29 651 22 70 (Тамара Мацкевіч).*

# ПАРАДЫ СЯБРАМ БАЦЬКОЎСКІХ КАМІТЭТАЎ



*Вольга Мазурава*

✓ Як жартуюць на сайце «Нашыя дзеткі», прыглядацца да сяброў твайго малога варта яшчэ да яго нараджэння. Так неабыякавыя бацькі і робяць – шукаюць аднадумцаў задоўга да таго, як выправіць дзіцё ў садок ці школу. Імпрэзы і святы, інтэрнэт-суполкі і сацыяльныя сеткі, абвесткі на інфармацыйных рэсурсах – усё гэта дазволіць вам загадзя пазнаёміцца з бацькамі патэнцыйных аднагрупнікаў ды аднакласнікаў, каб у выніку прыйсці ў навучальную ўстанову сяброўскім колам, здольным да супольных рашэнняў і дзеянняў.

✓ На першым бацькоўскім сходзе неабходна пазнаёміцца. Прапануйце ўсім па чарзе назвацца і сказаць пра сябе пару словаў. Складзіце табліцу з імёнамі, тэлефонамі, электроннымі адрасамі, днямі народзінаў дзяцей, працоўнымі магчымасцямі ды творчымі здольнасцямі людзей, з якімі вам давядзецца дачыняцца не адзін год. Абавязкова набярыце і разашліце гэты спіс на ўсе пазначаныя ў ім е-мэйлы. Опцыя «Add Cc / Add Bcc» дазволіць вам дадаць у поле атрымальніка патрэбную колькасць адрасоў і запачаткуе карысную электронную рассылку.

✓ Выдатная практыка – супольнае набыццё картак экспрэс-аплаты мабільнай сувязі для педагогаў вашай групы/класа, а таксама для адказных асобаў бацькоўскага камітэта. Гэты просты знак увагі засведчыць, што вы шануеце працу і час, прысвечаныя гэтымі людзьмі вам і вашым дзецям.

✓ Гуртаванню групы ці класа безумоўна паспрыяе тэматычнае інтэрнэт-кам'юніці. У сеціве шмат пляцовак, на якіх можна распачаць актуальны форум, стварыць дзённік, змясціць фота і відэа, пакінуць каментары. Што важна, такім кам'юніці можна надаваць розную ступень дасягу, г.зн. вы самі вырашаеце, хто і якім чынам зможа бачыць і ўдзельнічаць у вашай сеціўнай суполцы.

✓ Досвед паказвае, што на ўсё важныя перамовы з адміністрацыяй трэба выпраўляцца групай. Адзін дасужы, ды не дужы, казалі нашыя продкі – і мелі рацыю! Прысутнасць некалькіх зацікаўленых асобаў паспрыяе лепшаму данясенню бацькоўскай пазіцыі ды карэктнай хадзе гутаркі, дазволіць унікнуць эфекту сапсаванага тэлефона. Часам неабходна выкласці актуальныя пытанні і прапановы ў пісьмовай форме, сабраць пад лістом пэўную колькасць подпісаў і зарэгістраваць яго ў канцылярыі навучальнай установы як уваходную карэспандэнцыю.

✓ Незабыўным для дзяцей і бацькоў станецца супольны паход ці выезд: цікавая экскурсія, гутаркі вакол вогнішча, гульні і скокі на вольным паветры – няма патрэбы тлумачыць, наколькі збліжаюць і натхняюць такія рэчы…

# Карысныя інтэрнэт-рэсурсы:



**«Нашыя дзеткі»**
Беларускі сямейны партал: Расцем беларусамі!
http://dzietki.org/

**«Гарбузік»**
Забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак – стваpаецца супольнымі намаганнямі бацькоў
- архіў: http://dzietki.org/article/index.php?cid=345
- суполка стваральнікаў: http://dzietki.by/forum/viewtopic.php?t=9670



**«Настаўнік.info»**
Інфармацыйна-метадычны партал для настаўнікаў
http://nastaunik.info/

**«Блогі беларускіх настаўнікаў»**
Стужка настаўніцкіх блогаў, форум
http://inspiration.blog.tut.by/

**«Актыўная ацэнка»**
Сайт, прысвечаны методыцы Актыўнай Ацэнкі
http://aacenka.by/

**«Умники-Разумнікі»**
Навучальная інфармацыя і літаратурныя творы на беларускай мове
https://umrazum.wordpress.com/

**«Народныя казкі для дзетак»**
Праект ЮНІСЕФ у Беларусі
http://kazki.unicef.by/

**«Казачнік BY»**
Казкі, байкі, забаўкі, калыханкі, загадкі, дражнілкі, лічылкі, скарагаворкі
http://kazka.at.tut.by/

**«Дзяцінства»**
Сеціўная мясціна для дзетак-беларусаў
http://www.dziacinstva.net/

**«Баравік»**
Міжнародны беларускамоўны файлаабменны рэсурс: Пампуй сваё!
http://www.baravik.org/

**«Казкі беларускія»**
Прыказкі, конкурсы, сцэнары, загадкі, калыханкі, прыпеўкі, вершыкі і шмат іншага для беларускіх дзетак
http://kazki.by/




**«Беларуская палічка»**
Беларуская электронная бібліятэка: мастацкія, навуковыя, метадычныя ды іншыя кнігі і выданні
http://knihi.com/

**«Беларускія слоўнікі і энцыклапедыі»**
Энцыклапедычна-слоўнікавы партал
http://slounik.org

**«Беларускі дзіцячы фальклор»**
Сайт, прысвечаны беларускаму дзіцячыму фальклору… і не толькі
http://folk-by.16mb.com/

**«Блог беларускіх загадак»**
Загадкі на беларускай мове – народныя і аўтарскія
http://belzag.blogspot.com/

**«Беларускі сшытак»**
Блог дзяўчынкі Марусі, якая пачала вывучаць беларускую мову
http://beloruska.blogspot.com



**«Птушыныя гульні»**
Гульнявы раздзел сайта назіральнікаў за птушкамі
http://birdwatch.by/games

**«Bielamult»**
YouTube-канал мультфільмаў на беларускай мове
http://www.youtube.com/user/bielamult»

**«Kamunikat»**
Беларуская інтэрнэт-бібліятэка
http://kamunikat.org/

**«Прайдзісвет: Дарослым уваход забаронены»**
Нумар часопіса перакладной літаратуры, прысвечаны дзіцячым творам
http://prajdzisvet.org/issues/010.html




**«Прастора»**
Інтэрнэт-крама: кнігі, дыскі, сувеніры ды іншыя тавары, зробленыя беларусамі і для беларусаў
http://prastora.by/

**«Кнігі – Пштай»**
Інтэрнэт-крама: беларускія кнігі, дыскі, паштоўкі, сувеніры ў любы куток Беларусі
http://knihi.by/

**«Імбрык»**
Інтэрнэт-крама: аўдыёкнігі, відэа, літаратура, музыка, іншае
http://imbryk.by/

*Шаноўныя бацькі!*

*Апошнімі гадамі ў некаторых класах беларускіх школ уводзяцца змены ў сістэме навучання вучняў. Настаўнікі-наватары выпрабоўваюць так званае актыўнае навучанне.*

*Актыўная ацэнка (англ. Formative Assessment) выкарыстоўваецца ў шматлікіх краінах ва ўсім свеце. Найлепшым аргументам у падтрымку інтэграцыі АА ў школьны працэс можа быць адукацыйны досвед Фінляндыі, дзе АА – звычайная, самая распаўсюджаная методыка. Фінскія вучні дасягнулі найлепшых вынікаў у даследваннях PISA (Праграме міжнароднай ацэнкі уменняў вучняў)! Коратка кажучы, актыўная ацэнка – гэта перадача вучням зваротнай інфармацыі аб тым, якімі ведамі яны авалодалі, чаму яшчэ мусяць навучыцца і якім чынам можна гэта зрабіць.*

*Больш інфармацыі пра методыку актыўнай ацэнкі можна знайсці ў навукова-метадычным часопісе «Пачатковае навучанне: сям'я, дзіцячы сад, школа» (№10 2012 г., электронны дасяг – http://nastaunik.info/news/?id=7453), у «Настаўніцкай газеце» (15. 01. 2012, электронны дасяг – http://nastaunik.info/news/?id=7419), ТВ-інтэрв'ю з пераможцам абласнога конкурса «Настаўнік года» Юрасём Каласоўскім (электронны дасяг – http://nastaunik.info/news/?id=7709), а таксама на сайце «Актыўная ацэнка» (http://aacenka.by/).*

# БАЦЬКАМ ПРА АКТЫЎНУЮ АЦЭНКУ

*Данута Стэрна*

Хачу заахвоціць вас, шаноўныя бацькі, да актыўнай ацэнкі (АА). Мая задача цяжкая з дзвюх прычын:

- Сама назва недакладная – намаўляе, што гаворка ідзе толькі пра адзнаку;
- Шмат хто з вас ужо даўно скончыў школу і вярнуць туды думкі будзе няпроста.

Для мяне актыўная ацэнка – гэта праверка папярэдніх прынцыпаў навучання, падвядзенне высноваў: ***калі*** чалавек эфектыўна вучыцца, ***што*** яму дапамагае і ***як*** гэтым скарыстацца.

Прашу вас прыгадаць часы, калі вы самі вучыліся.

**Першы крок**

Настаўнік матэматыкі просіць вас знайсці найменшае агульнае кратнае для лікаў 33 і 121, а пасля для 342 і 521. Ён кажа, што трэба раскласці лікі на простыя множнікі. Дапусцім, вы ведаеце, пра што вядзецца, і завіхаецеся над заданнем. Што вы адчуваеце?

Мяркую, што большасць з вас запытае: *Навошта мы гэта робім?*

Маеце рацыю: складана выконваць заданне, калі не ведаеш мэты. Таму АА патрабуе, каб настаўнік агучыў вучням мэту ўрока, пры гэтым на мове, зразумелай для вучня. У прыведзеным прыкладзе мэтай навучання было складанне звычайных дробаў, а праз гэта – пошук агульнага назоўніка двух дробаў.

А цяпер уявіце сабе, што настаўнік прапануе вучням такую мэту: «Мы хочам навучыцца складаць дробы 5/33 і 4/121». Далей тлумачыць, што мы шукаем агульны назоўнік для 33 і 121 і таму вучымся знаходзіць найменшае агульнае кратнае. Падобна, што ў такім выпадку б вы нерваваліся значна меней.

Выснова: давайма вучням мэты ўрока на зразумелай для іх мове!

**Другі крок**

Прыгадайце сваю кантрольную па геаграфіі, прысвечаную Еўропе. Вы пытаеце настаўніка, якому матэрыялу яна будзе прысвечана. Які вы атрымліваеце адказ? На жаль, у большасці выпадках ён гучыць так: усяму, што праходзілі на ўроках. Вас гэта задавальняе? НЕ, бо напэўна ж вы хацелі б ведаць: кантрольная будзе датычыць рэк, ці гарадоў, ці, можа, – прыродных рэсурсаў?

Атрымаць канкрэтную інфармацыю ў такой сітуацыі магчыма. У актыўнай ацэнцы настаўнік да кожнага ўрока вызначае так званае НаШтоБуЗУ – На Што Буду Звяртаць Увагу. Паверце, гэта магчыма, але патрабуе ад настаўніка вялікай дысцыпліны, бо ён абяцае, што будзе трымацца ўмовы і фактычна будзе правяраць толькі тое, пра што абвясціў.

У актыўнай ацэнцы мы інфармуем вучняў, што будзем ацэньваць.

Вучань можа спраўдзіць з ліста НаШтоБуЗУ, ці добра ён падрыхтаваўся да праверкі, ці слушна скарыстаўся ўрокам. Напэўна, шаноўныя бацькі, вы цяпер зайздросціце вучню, які займаецца паводле метаду АА, бо і самі хацелі б мець ад свайго шэфа канкрэтныя ўказанні адносна вашых заданняў.

**Трэці крок**

Вучні (вашыя дзеці) ужо ведаюць, што і для чаго будуць вучыць і што ў іх правераць. Але як іх заахвоціць да навучання?

Гэта цяжкая задача для настаўніка. Столькі цікавых рэчаў на свеце, а тут кажуць шукаць найменшае агульнае кратнае нейкіх лікаў… Нуда!

Падумайце, як бы вы заахвоцілі дзяцей да такога задання?

У матэматыцы існуе паняцце дасканалага ліку.

Дасканалы лік – натуральны лік, роўны суме ўсіх сваіх уласных дзельнікаў (г.зн. меншых за гэты лік). Найменшы дасканалы лік – 6, бо 6 = 3 + 2 + 1.

Настаўнік можа запытаць вучняў, які наступны лік пасля 6 – дасканалы? (Наступны – 28 (28 = 14 + 7 + 4 + 2 + 1), а далей гэта 496, 8128, 33550336, 8589869056 і 137438691328.)

На ўроку па раскладанні ліку на простыя множнікі можна запытаць вучняў: ці з'яўляецца нумар іх дома дасканалай лічбай? Такое пытанне (у АА яно называецца ключавым) мае ўсе шанцы заінтрыгаваць вучняў. Можна шукаць дасканалыя лікі і ў іншых месцах – і з гэтай нагоды вучыцца раскладанню на множнікі.

А далей можна перайсці да пошуку … найменшага агульнага кратнага, а пасля да складання дробаў.

**Чацверты крок**

Дапусцім, што настаўнік ужо зацікавіў нас, задаўшы ключавое пытанне. Аднак як тут вытрымаць усе 45 хвілін урока? Магчыма, дасканалыя лікі гэта цікава, але раскладанне на множнікі? Значна меней. Няўжо мусім увесь час толькі рашаць задачы, ды яшчэ і не кантактаваць з іншымі?

Вядома ж, не! У актыўнай ацэнцы вялікую ролю граюць як пытанні, заданыя вучнямі настаўніку, так і тыя, з якімі настаўнікі звяртаюцца да вучняў. Важна, каб вучань меў час паразважаць над адказам, каб абмеркаваў яго з сябрамі ў класе, каб не пачуваўся пры адказе вырваным з кантэксту і адразу ацэненым. Настаўнік АА зважае, каб усе вучні былі зангажаваныя ў ходу ўрока і каб усе вучні ўзаемна дапамагалі і вучыліся адно ад аднаго.

*Ну, нейкую казку Вы нам тут прапануеце! У школу трэба хадзіць і трэба вучыцца, у нашыя часы мы вучыліся і было добра.*

Ну, не ўсё было добра. Прыгадайце, як вы трэсліся перад урокам

матэматыкі і гісторыі. У некаторых нават рэгулярна балеў жывот перад тымі ўрокамі.

*Вох, можа так яно і было, але мы вывучыліся і выраслі ў прыстойных людзей, а зараз…*

Але хіба не аддалі б вы перавагу навучанню без боляў у жываце, з цікавасцю да прадмета не толькі ў час кантрольных – а і на шмат гадоў?

Шмат людзей ва ўсім свеце шукаюць, як лепей і эфектыўней вучыць. Выкарыстоўваюцца не толькі даследаванні вынікаў, але і доследы над мозгам чалавека, які вучыцца. Іх высновы перакладаюцца на мову практычных рэкамендацый і выкарыстоўваюцца, напрыклад, у… актыўнай ацэнцы.

**Пяты крок**

Пра што вы пытаеце ў сваіх дзяцей, калі тыя прыходзяць са школы? Пра што пыталі ў вас бацькі?

*- Што ты атрымаў? Што ты атрымала?*

Вох, не любілі вы гэтага пытання, асабліва тады, калі не было чым пахваліцца. Але з вашага цяперашняга адказу так не скажаш: *А чаму так мала?*

Школа скача вакол адзнакі… Настаўнікі часта кажуць, што нізкі бал матывуе вучня да навучання. Прыгадайце, ці любілі вы прадмет, па якім атрымлівалі кепскія адзнакі?

*Кавалевіч, табе як заўсёды толькі 3-.* Матывуе?

*Але чаму толькі 3-, што я зрабіў кепска, як павінна быць добра, няўжо ў маёй працы няма нічога добрага?*

Адзнака не дае вучню ніякай інфармацыі, апрача той, якая змяшчае яго ў рэйтынгу дасягненняў класа.

Актыўная ацэнка раіць пашырыць паняцце «адзнака» да «ацэнкі, якая дапамагае вучыцца». Настаўнік замест балаў перадае вучню інфармацыю: што ён зрабіў добра, што кепска, як яму выправіць сваю працу і што вучань павінен зрабіць далей. Такім чынам настаўнік выкарыстоўвае працу вучня, каб дасканаліць яго працэс навучання.

Такая зваротная інфармацыя можа быць выкарыстана і бацькамі, каб дапамагчы дзіцяці ў яго навучанні.

Такім чынам, бацькам, замест таго, каб запытваць у дзіцяці пра адзнаку, лепш спытаць: *Чаму ты сёння навучылася? Чаму ты сёння навучыўся?*

Таксама запытайце ў свайго дзіцяці, для чаго яно ходзіць у школу. Пабачыце, як яно здзівіцца. Магчыма, адкажа – для таго, каб вучыцца. Тады запытайце ў яго, чаму яно навучылася за апошні тыдзень. Не бяруся спрагназаваць яго адказ.

А пакольні вашае дзіця бавіць у школе большасць свайго часу, добра было б, каб яно рабіла гэта з плёнам, не кажу ўжо пра тое, што ў школе яго павінны цаніць, а не крытыкаваць.

Ці здаралася, што вашае дзіця тыдзень хварэла і было з вамі дома? Ці вучылі вы яго тады? Напэўна заўважылі, што не гарбелі з дзіцём над урокамі па 7 гадзін штодня, аднак здолелі засвоіць матэрыял.

Так, на жаль дзеці аддаюць шмат часу школе. Што праўда, яны пры гэтым

**Сёмы крок**

Магчыма, вы некалі чулі пра сябе ці цяпер пра сваё дзіцё, што вы (яно) лянотнае і неадказнае. Ніводнае дзіця такім не нараджаецца і збольшага такім не з'яўляецца. Як яму быць адказным, калі яно не мае ўласнай свабоды! Мусіць хадзіць у школу, мусіць вучыцца таму, што ёсць у праграме, мусіць здаваць іспыты ды г.д.

Але ў школе ёсць месца, каб вучыцца адказнасці. У актыўнай ацэнцы




сацыяльна развіваюцца і гэта трэба цаніць, але прызнайце, што час урока павінен быць лепей выкарыстаны на навучанне. Часам мне падаецца, што ў школе вучань патрапляе выключна ў працэс ацэнкі, а не навучання.

Прасіце настаўніка, каб даваў вашаму дзіцяці зваротную інфармацыю. Не дамагайцеся адзнак, бо таму, хто вучыцца, яны не даюць ніякай карысці.

**Шосты крок**

У школе няма супрацы. Калі і ёсць, дык найчасцей у заганнай форме, кшталту спісвання.

Ці прагадаеце вы са свайго дзяцінства супольную працу (апрача ўрокаў фізкультуры) ці працу паводле метаду праектаў? Калі так, то вам пашанцавала. Вучань у школе на ўроках самотны, у самоце выконвае зададзеныя настаўнікам заданні і ацэньваецца індывідуальна.

Няма аніякай нагоды, каб у працэсе навучання вучань працаваў сам. Супольная дыскусія, пошук рашэнняў, вызначэнне адказу ў парах дае вучням пачуццё бяспекі, магчымасць вучыцца адно ў аднаго і практыку супрацы, такую важную ў дарослым жыцці.

Падтрымлівайце настаўнікаў, якія ўжываюць метад праектаў, часта прапануюць працу ў парах, вучаць узаемнай ацэнцы і дбаюць, каб вучні ўмелі супрацоўнічаць.

настаўнікі дбаюць, каб вучні практыкавалі самаацэнку, вучаць іх гэтаму ўменню. Гэта спараджае прыняццё вучнем адказнасці за працэс свайго навучання. У жыцці яно яму вельмі прыдасца.

**Восьмы крок**

Ці лічыце вы, што школа вашага дзіцяці добра супрацоўнічае з бацькамі?

Як выглядае гэтая супраца, якой бы вы хацелі? Вы прыходзіце на бацькоўскі сход, атрымліваеце выцемку з адзнакамі свайго дзіцяці і просьбу скантактавацца з некаторымі настаўнікамі. Класны кіраўнік скардзіцца на дзяцей: агрэсіўныя, не вучацца належным чынам ды г.д. Часам класны кіраўнік плануе экскурсію, збірае складкі ў бацькоўскі камітэт і апякунскую раду…

Настаўнік АА імкнецца да сапраўднай супрацы з бацькамі. Ён інфармуе іх пра поспехі дзіцяці, кансультуе, як з ім працаваць, плануе развіццё вучня разам з яго бацькамі. Такому настаўніку трэба давяраць і дапамагаць.

*Данута Стэрна – настаўніца матэматыкі, эксперт і трэнер Актыўнай Ацэнкі ў Цэнтры грамадзянскай адукацыі ў Польшчы, аўтар кнігі «Актыўная Ацэнка на практыцы», блога «Moja oś świata» (http://osswiata.pl/).*

*Пераклад з польскай С. Літвінчук*

## ТБМ запрашае вучняў на курсы

*Па панядзелках і серадах*

На бясплатнай аснове кожны ахвочы можа палепшыць свае моўныя веды і практыку, удасканаліць веды па гісторыі ды культуры Беларусі.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў: «Заняткі ладзяцца ў дзвюх узроставых групах: навучэнцы 7–8 класаў і 9–10 класаў. Выкладаюць у асноўным кандыдаты і дактары навук. Глыбока вывучаем беларускую мову, гісторыю, літаратуру. Як сведчаць першыя водгукі, дзецям вельмі цікава. Запрашаем далучацца і іншых – перадусім тых, хто хоча глыбей даведацца пра нашу гісторыю, мову, культуру. Курсы будуць працягвацца яшчэ некалькі месяцаў».

Курсы па беларускай мове і гісторыі ладзяцца ў мінскай сядзібе ТБМ па адрасе: вуліца Румянцава, 13 – кожныя панядзелак і сераду.

*Падрабязней глядзіце на* http://www.svaboda.org/content/article/24958119.html

## «Жывое права»: Юрыдычныя заняткі для для школьнікаў

Юрыдычная клініка БДЭУ прапануе школам супрацоўніцтва – правядзенне студэнтамі-юрыстамі заняткаў па праве для школьнікаў. Студэнты правядуць заняткі на прававую тэматыку з выкарыстаннем інтэрактыўных методык выкладання ў вашай школе, гімназіі, дзіцячай інтэрнатнай установе.

*Падрабязней глядзіце на* http://nastaunik.info/news/?id=7603

## Конкурс культурніцкіх праектаў ад кампаніі «Будзьма беларусамі!»

*Апошні тэрмін – 15 мая 2013 г.*

Грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!» абвяшчае конкурс праектных ідэй, накіраваных на развіццё культурнага жыцця ў Беларусі.

Калі ў Вас ёсць ідэя, якая: спрыяе развіццю культуры (слова «культура» разумеецца ў шырокім сэнсе); ахоплівае шырокае кола людзей; спрыяе ўзнікненню іншых творчых ідэй; натхняе іншых на актыўнасць у сферы культуры; дапамагае з'яўленню новых партнёрстваў у сферы культуры і ў сумежных сферах – бізнесе, адукацыі, турызме, ахове навакольнага асяроддзя, мясцовым і рэгіянальным развіцці; павялічвае цікаўнасць грамадзян да культуры; робіць рэгіянальную культуру больш разнастайнай – дасылайце прэзентацыю свайго праекта, а таксама інфармацыю пра ініцыятара на скрыню: razam@budzma.org з пазнакай «На конкурс праектаў».

Падтрыманыя ідэі мусяць быць рэалізаваныя ў любы час у перыяд з 01.06.2013 г. па 31.05.2014 г.

*Падрабязней глядзіце на* http://budzma.org/budzma/kampaniya-budzma-belarusami-abvyashchae-konkurs-kulturnickix-praektau.html

## «Альбом школьных песень»: Канцэрты-прэзентацыі для школ

Прапануем для вашай школы (навучальнай установы) канцэртную праграму з песнямі, якія ўваходзяць у «Альбом школьных песень».

Альбом змяшчае новыя песні з сучаснымі аранжыроўкамі, да кожнай песні дадаецца «мінусоўка» для далейшай самастойнай працы.

Мы прыязджаем на сваім транспарце, прывозім інструменты. Па магчымасці, на некаторых сцэнах мы просім паставіць гукаўзмацняльную апаратуру (калонкі, узмацняльнікі, мікшэрны пульт). Месцам правядзення прэзентацыі можа быць актавая зала, аўдыторыя, музей, бібліятэка.

*Падрабязней глядзіце на* http://nastaunik.info/news/?id=7720

## Пятроўскі фэст 2013

*6 – 12 чэрвеня 2013 г.*

Рэгіянальны фэст традыцыйнай культуры сёлета будзе складацца з 3-х частак:

1) 06.07–07.07 – свята Купалле і танцавальная акцыя «Лявоніха на 100 пар»;

2) 07.07–11.07 – летняя танцавальная школа «Пятровіца»;

3) 12.07 – рэканструкцыя календарна-абрадавага свята Пятрок (Пятровіца) ды гасцявога кірмашу на Петрака.

*Падрабязней глядзіце на* http://by-ethno.livejournal.com/326301.html , http://vk.com/club51611528

## «Экслібрыс» : Конкурс твораў дзіцячай літаратуры

*Апошні тэрмін – 1 жніўня 2013 г.*

ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і Беларускі ПЭН-цэнтр з 1 студзеня 2013 года ладзяць конкурс маладых пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Янкі Маўра. У 2013 годзе споўніцца 130 гадоў з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка. А таму сёлета тэмай конкурсу абраная дзіцячая літаратура.

Да разгляду конкурснага журы будуць прымацца творы для дзяцей у наступных жанрах: проза (апавяданні, казкі і г.д.), паэзія (вершы, байкі і г.д.), п'есы, тэксты песень, коміксы, пераклады замежных дзіцячых твораў на беларускую мову.

Узяць удзел у конкурсе могуць пісьменнікі, літаратурныя крытыкі і перакладчыкі не старэйшыя за 40 гадоў.

*Падрабязней глядзіце на* http://lit-bel.org/by/news/3398.html

## Фотаконкурс «Магія дзікай прыроды – 2013»

*Падвядзенне і абвяшчэнне вынікаў – 5 лістапада 2013 г.*

Сайт Birdwatch.by разам з выдавецкай ініцыятывай «Гарадзенская бібліятэка» абвяшчае фотаконкурс «Магія дзікай прыроды – 2013», прысвечаны здымкам беларускай прыроды. Фотаздымкі прымаюцца і ацэньваюцца ў чатырох намінацыях: «Магія дзікіх птушак», «Магія дзікіх жывёл», «Магія МакраСвету», «Магія краявідаў».

*Падрабязней глядзіце на* http://birdwatch.by/news/5671

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта **Nastaunik.info**
Адрас для допісаў: **nastaunik.info@gmail.com**
Наклад 200 асобнікаў